*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 24 (512) 13 ЧЭРВЕНЯ 2001 г.

## Злачынства над дзецьмі

Мая дачка з 1 класа вучылася па-беларуску, на роднай мове. Пасля чацвёртага класа адміністрацыя школы і настаўнікі з двух беларускіх зрабілі два рускія 5-я класы.

Мы тады перавялі сваё дзіця ў іншую школу. А той, хто гэта не паспеў зрабіць быў змушаны перамяніць мову навучання сваіх дзяцей. З васьмі выдатнікаў не засталося ў класе ніводнага. Вось табе рэформа!

Прайшло тры гады. Зноў у нашай школе збіраюць сход бацькоў сёмых класаў за два тыдні да канца навучальнага года. На дошцы паслужліва напісаны ўзоры заявы аб пераводзе дзяцей ў профільныя класы.

Самае злачыннае, на мой погляд, у тым, што бацькам "выкручваюць" рукі. Як быццам яны "самі жадаюць" вучыць сваіх дзяцей па-руску. Зноў-такі, калі дзеці ўжо сем год вучыліся па-беларуску.

Усё патрабуюць хутчэй – за тры дні. Гэта злачынцам у натоўпе зручней. Так і настаўнікам.

Сістэма знішчэння беларускай мовы, беларускай свядомасці, патрыятызму адпрацавана не дзе-небудзь, а ў старажытным Заслаўі.

І не дзіва: за тры гады я не бачыла ніводнага свята ў нашай школе на беларускай глебе!

Дзеці адчуваюць сябе, як у рэзервацыі.

Псіхолагі лічаць, што з гэтага пачынаюцца комплексы непаўнавартаснасці. Вучоныя даследавалі, што толькі родную мову чалавек вывучае на пачуццёвым узроўні.

Абыякавыя настаўнікі і не думаюць паважаць зямлю, на якой жывуць. Брыдка, ганебна...

А чыноўнікі думаюць толькі аб сабе і сваім крэсле. Чым больш духоўных невукаў, тым лягчэй імі кіраваць!

Не чакайце, даражэнькія настаўнікі, ад будучых дарослых павагі да сябе – не выхавалі.

Сёння здрадай займаемся мы, а заўтра здрадзяць нашы дзеці ці будуць абыякавымі да нас.

*Педагог-псіхолаг Галіна Аксючыц, г. Заслаўе.*

## Людзі і падзеі

На пачатку сакавіка гэтага года Рада ТБМ Кастрычніцкага раёна г. Менска звярнулася да галавы адміністрацыі раёна з афіцыйным запытам наконт нездавальняльнага стану беларускай мовы ў адміністрацыі. Была звернута ўвага на адсутнасць беларускамоўных шыльдаў на дзвярах аддзелаў, указаны факты непаважлівага стаўлення да мовы тытульнай нацыі краіны з боку чынавенства, прапанавана правесці пашыранае пасяджанне адміністрацыі сумесна з Радай ТБМ па выкананні "Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь".

Ужо ў пачатку красавіка Рада атрымала ліст за подпісам галавы адміністрацыі сп. Буры, дзе, у прыватнасці, было дакляравана, што пасля заканчэння рамонту з'явіцца беларускамоўныя шыльды на дзвярах усіх аддзелаў і службаў.

І сапраўды, ужо ў тым жа красавіку ў будынку адміністрацыі нашага раёна "закрасавалі" прыгожыя шыльды з захаваннем усіх нормаў беларускай мовы.

Цяпер беларускі грамадзянін, што заходзіць у адміністрацыю, адразу адчувае, што гэтая дзяржаўная ўстанова – установа Беларускай Дзяржавы. І міжволі чалавека ахоплівае пачуццё гонару, самапавагі і годнасці.

Я мяркую, што гэтымі ж пачуццямі кіраваліся галава адміністрацыі Кастрычніцкага раёна г. Менску сп. Віктар П. Бура, намеснік Ян Чыкілеўскі, кіраўнік справамі сп. Уладзімір Куляшоў, калі мянялі форму мовы ў візуальным асяроддзі.

Спадзяюся, што гэты станоўчы прыклад паўплывае на ўсіх чыноўнікаў адміністрацыі нашага раёна і выкліча ў іх пачуццё належнай павагі да мовы народа, які жыве на сваёй зямлі, у сваёй дзяржаве, у сваім доме...

Цяпер застаецца чакаць, калі адбудзецца сумеснае пашыранае пасяджэнне адміністрацыі і Рады ТБМ Кастрычніцкага раёна г. Менска "Аб выкананні Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", з ініцыятывай якога выступіла наша арганізацыя.

*Старшыня Рады ТБМ Кастрычніцкага раёна г. Менска Ян Грыб.*

## Новая з'ява ў беларускім мастацтве

6 чэрвеня ў будынку Белдзяржфілармоніі адбылася прэм'ера першай на Беларусі рамантычнай монаоперы "Адзінокі птах" паводле Адама Міцкевіча.

Аўтар лібрэта і рэжысёр-пастаноўшчык – вядомая беларуская акторка Галіна Дзягілева. Ролю А. Міцкевіча бліскуча выканаў заслужаны артыст Беларусі Міхаіл Жылюк у суправаджэнні хора музычнай капэлы "Санорыюс" (кіраўнік і дырыжор – Аляксей Шут). Напісаў музыку монаоперы знаны беларускі кампазітар Алег Залётнеў. Музычны кіраўнік пастаноўкі – дырыжор Пётр Вандзілоўскі.

Сюжэт спектакля закранае падзеі апошняга дня жыцця Адама Міцкевіча ў Стамбуле ў 1856 годзе. Тэкст оперы напісаны паводле твораў Адама Міцкевіча, Яна Чачота і Рыгора Барадуліна. Прэм'ера была прымеркавана да 10-годдзя стварэння тэатра аднаго актора "Зьніч", кіраўніком і заснавальнікам якога з'яўляецца Галіна Дзягілева. Спектакль пастаўлены пры падтрымцы турэцкай амбасады ў Беларусі.

Больш гадзіны ўдзячныя слухачы (зала і нават балкон філармоніі былі цалкам запоўненыя) захоплена слухалі цудоўныя спевы на класічнай беларускай мове. Некалькі каталіцкіх малітваў, што прагучалі па-польску, але з выразным беларускім акцэнтам, цалкам вярнулі вобраз Адама Міцкевіча ў беларускі тагачасны кантэкст. Яго прадсмяротны сум аб роднай Літве-Беларусі, аб краявідах далёкага Наваградка моцна крануў душу кожнага гледача.

*Алег Трусаў.*

ДЗЕ? ДЗЕ? ДЗЕ?

7 ліпеня мінае год, як знік наш калега, тэлеаператар



Рэпарцёры – не палітыкі. Журналісты – не суддзі. Але зафіксаваныя рэпарцёрамі факты наўмысна ці неспадзявана выносяць прысуд нават таму, што палітыкі імкнуцца схаваць ад людскіх вачэй. Няма рэпарцёра – няма суда? Дзе Дзмітрый Завадскі? Хто і з якога права распараджаецца яго лёсам?

Дзмітрый Завадскі ДЗЕ?

Беларуская Асацыяцыя Журналістаў патрабуе праўды!

**Беларускую асацыяцыю журналістаў па-ранейшаму хвалюе пытанне**

## ДЗЕ ЗМІЦЕР ЗАВАДСКІ?

**7 ліпеня споўніцца год, як пры нявысветленых абставінах знік наш калега Зміцер Завадскі**

Беларуская асацыяцыя журналістаў ХОЧА ВЕДАЦЬ, **КУДЫ ЗНІК ЗАВАДСКІ, ДЗЕ ЁН І ШТО З ІМ.** Сёння, 7 чэрвеня мы распачынае акцыю, у межах якой мы будзем штодня – праз публікацыі ў газетах – нагадваць уладам пра нашага калегу. У межах акцыі БАЖ будуць таксама арганізаваныя прэс-канферэнцыі, пройдуць пікеты. Мы будзем збіраць сродкі для сям'і Зміцера Завадскага, якая пасля знікнення Зміцера мае далёка не найлепшае матэрыяльнае становішча.

7 ліпеня 2000 года Зміцер Завадскі выехаў з дому ў аэрапорт "Менск-2", каб спаткаць свайго калегу журналіста Паўла Шарамета. Выйшаўшы з самалёта, Павел Шарамет знайшоў машыну Завадскага, прыпаркаваную каля будынка аэрапорта, але Зміцера ў ёй не было. Пра знікненне Зміцера Завадскага было паведамлена міліцыі, пракуратуры, адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Транспартная пракуратура распачала крымінальную справу па артыкуле 101 КК (наўмыснае забойства).

Увесь мінулы год, покуль цягнулася следства, грамадскасць была сведкам гучных заяў, грозных абяцанняў знайсці злачынцу. Справу з Транспартнай пракуратуры перадалі ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь і перакваліфікавалі ў выкраданне. Потым адбыліся змены ў найвышэйшым кіраўніцтве МУС, Пракуратуры, КДБ. Сёння, праз 11 месяцаў пасля трагедыі, следства – ужо толькі па факце выкрадання – скончанае. Але беларускія ўлады так і не зрабілі самага важнага – не знайшлі Зміцера. У траўні на брыфінгу, па выніках следства прадстаўнікі Пракуратуры Рэспублікі Беларусь паведамілі, што не маюць звестак пра месца знаходжання Завадскага.

Беларуская асацыяцыя журналістаў заклікае усіх беларускіх журналістаў праявіць карпаратыўную салідарнасць, каб дамагчыся ад уладаў адказу на пытанне: ДЗЕ НАШ КАЛЕГА?

*Прэс-служба ГА "БАЖ".*

# Да сэрца кожнага

*Гомельская абласная Рада грамадскай арганізацыі Таварыства Беларускай мовы ў абласной управе адукацыі наладзіла "круглы стол", у якім прынялі ўдзел начальнік управы адукацыі Гомельскага аблвыканкама* ***Андрэй Лук'яновіч****, сябар абласной Рады ТБМ, яго намеснік* ***Лідзія Кацегава****, - сябар абласной Рады ТБМ і намеснік старшыні абласной Рады ТБМ,* ***Руслан Будзюхін****, загадчык аддзела адукацыі Чыгуначнага раёна горада Гомеля,* ***Леанід Сямашка*** *– загадчык аддзела адукацыі Савецкага раёна,* ***Алег Леўшуноў*** *– заг. аддзела адукацыі Цэнтральнага раёна,* ***Уладзімір Барушкоў*** *– загадчык аддзела адукацыі Навабеліцкага раёна,* ***Надзея Котава*** *– рэктар інстытута павышэння кваліфікацыі,* ***Вадзім Сабко*** *– начальнік управы адукацыі горада Гомеля. Тэма гутаркі –* ***"Становішча і праблемы адраджэння беларускай мовы ў садках і школах Гомеля".*** *Мэта сустрэчы – акрэсліць, што зроблена ў гэтым кірунку, вызначыць праблемы, якія перашкаджаюць шырока і мэтанакіравана весці гэтую работу ў школах і дзіцячых садках і прыйсці да высновы – што рабіць для таго, каб беларускае слова дайшло да кожнага сэрца дзіцяці і вучня.*

**А. Лук'яновіч:** - За апошнія два гады гэта ў нас першая такая сустрэча на ўзроўні абласнога грамадскага аб'яднання ТБМ. Гэта вельмі добра, што нашы намаганні і жаданне займацца адраджэннем роднай мовы супадаюць. Тым больш, што гэтыя пытанні разглядаліся на ўзроўні ўрада, калі слухалася пытанне аб адукацыі. Адным з пунктаў, асобным пытаннем, стаяла і гэтая тэма – падняцце прэстыжу роднага слова ў сферы адукацыі. І сённяшняя наша сустрэча, думаю, не для пратаколу, а па покліку сэрца. Каб мы зрабілі вывады, каб вызначылі свае арыенціры працы на перспектыву, на заўтрашні дзень. Нам нельга без матчынай мовы, як і без паветра. Матэрыял сустрэчы рыхтуецца для "Нашага слова", таму мы і павінны сказаць сёння нашае слова... Таму што нашая вобласць, на жаль, значна адстае ад іншых рэгіёнаў рэспублікі ў адраджэнні беларушчыны. Наш святы абавязак – выйсці на перадавыя пазіцыі па шанаванню роднага слова, матчынай мовы, зрабіць усё для таго, каб першасныя суполкі былі ство-раны ў кожнай школе і дзіцячым садку, і кожная з іх мела падпіску на неабходную для ўсіх педагогаў-беларусаў газету "Наша слова".

**Р. Будзюхін:** - Калі гаварыць пра гэтую працу ў Навабеліцкім раёне горада, то магу пералічыць напачатку, што робіцца. Напрыклад, у СШ-45 адкрыты два беларускамоўныя класы на 48 вучняў, для вучняў 8 і 9 класаў, і ў СШ-57 – 1 беларускмоўны клас на 19 вучняў 9 класаў.

У СШ-5 паглыблена вывучаецца гісторыя Беларусі.

Вучні наведваюць групы падрыхтоўкі ВПК-2 пры кафедры беларускай мовы ГДУ. А папулізацыя гэтага прадмета вядзецца праз гурткі, факультатывы. У СШ-29, 44 – створаны этнаграфічныя музеі, у астатніх школах – этнакуточкі. У СШ-48 створаны краязнаўчы музей Мільчы.

Традыцыйна праводзяцца дэкады беларускай мовы. У сакавіку на базе СШ-12 быў праведзены гарадскі семінар па ўкараненню сучасных адукацыйных тэхналогіяў у методыку выкладання беларускай мовы.

А напачатку года адбылася творчая сустрэча настаўнікаў, вучняў з выкладчыкамі кафедры беларускай мовы; у сакавіку адбылася сустрэча з рэжысёрам з Менску па правядзенню калядак. Прымалі вучні ўдзел у гарадскім фестывалі песеннай творчасці "Песні над Сожам".

Што яшчэ? Усе школы падпісаліся на газету "Наша слова".

Ну і яшчэ, як бы гэта правільна сказаць, бо забыў матчыну мову, - ёсць у нас фальклёрныя ансамблі, музеі, адным словам, матчыну мову мы падтрымліваем.

Але мяне, як загадчыка аддзела адукацыі, непакоіць пытанне – а як будзе справа абстаяць з падручнікамі? Мы былі зрабілі класы, у якіх было выкладанне на роднай мове, але мы спынілі працу па той прычыне, што не было падручнікаў...

**А. Лук'яновіч:** - Не ведаў пра такую праблему. Якіх жа падручнікаў вам не хапае?

**Р. Б.:** - Практычна па ўсіх прадметах... Фізікі, матэматыкі, хіміі... На беларускай мове.

**Лідзія Кацегава:** - Дык чаго ж мы ад вас не атрымалі заявак на такія падручнікі, і чаму абласны аддзел адукацыі не ведае гэтую праблему? І вы гатовы адкрыць беларускія класы, калі будуць у вас такія падручнікі?

**Р. Б.** – Гатовы.

**Л. К.** – А для якіх класаў трэба такія падручнікі? Вось пачнецца новы навучальны год, а вы пра гэта не гаворыце – аб сваіх праблемах. І ці ёсць у вас якая статыстыка, аналіз, колькі вучняў жадае вучыцца на беларускай мове, якую вы працу праводзіце ў сувязі з гэтым...

**Р. Б.** – Як такога аналізу і малюнку мы не рабілі. Вось я і кажу цяпер пра ўсё гэта... Але гэта праблема напалову. Ёсць і другая, галоўная праблема. І сакраментальнае пытанне – а потым што? Возьмем ідэальны малюнак: усе ці палова школ перайшла на выкладанне прадметаў па-беларуску. А для чаго гэта ўсё? Прадметы ж у ВНУ выкладаюцца па-расейску. Я да таго, што вучні не імкнуцца аваладваць роднай мовай, бо яна нідзе не прымяняецца ў ВНУ, хіба толькі на спецыяльным факультэце. Ды і экзамены пры здачы патрабуюцца на выбар. Дык якую ж выбера вучань для здачы? Канечне ж расейскую, бо з ёю надзейней... Калі раней гэты было абавязкова – здаваць экзамен па беларускай мове і на беларускай мове, то сёння... Ёсць праблема?

**А. Л.** – Ёсць, згодзен. Але гэта гутарка для іншага разу. Давайце сёння абмяркоўваць становішча справаў у садках і школах. Ад чаго залежыць укараненне і выкладанне роднай мовы ў школе? Што думае па гэтым пытанні Леанід Сямашка?

**Леанід Сямашка:** - Усё залежыць ад таго, як таго жадаюць бацькі дзяцей... Жаданне вучыцца на роднай мове выказала два чалавекі ў мінулым годзе. Нам можа трошкі прасцей, бо ў нашым раёне працуе беларуска-славянская гімназія. Арыентуем туды...

**Карэспандэнт:** - Я памятаю, як некалі прадстаўнік аддзела адукацыі горада Халілаў ездзіў у тую ж гімназію і амаль прымушаў бацькоў, нават пагражаў, каб яны не пісалі заяў у беларускія класы. Хто з вас тады ўмяшаўся, і прызнаў, што самі ж педагогі, у тым ліку дырэктары іншых школ, шмат чаго зрабілі для адлучэння дзяцей ад беларускіх класаў і школ...

**Л. С.** – Не памятаю такога...

**Кар.** – Вось вам і адказ, што ўсё залежыць ад бацькоў – ад вас ўсё залежыць. Дарэчы, на якой мове вы выступаеце перад калектывам, на якой мове вядзецца дакументацыя ў аддзеле адукацыі.

**Л. С.** – На рускай...

**Кар.** – Чаму?

**Л. С.** – Ды ведаеце, мы раней вялі дакументацыю на роднай мове, але сакратарка рабіла столькі памылак, што тыя паперы было сорамна паказваць...

**Кар.** – Зразумеў – непісьменная сакратарка і асабістае нашае нежаданне.

**Л. С.** – Ну навошта так утрыраваць. Я добра ведаю мову, восем год на ёй вучыўся...

**А. Л.** – Давайце лепш самі сабе прызнаемся, што ў нас яшчэ не дастаткова асабістай ініцыятывы ў справе адраджэння. Мы сёння гаворым пра свае клопаты і праблемы.

**Л. С.** – Я скажу, што ў нас робіцца... Пра бацькоў я казаў. За кошт гадзін школьных кампанентаў у пачатковай школе ўведзена беларусазнаўства. Прадметныя тыдні. Па беларускай мове і літаратуры. Конкурсы кабінетаў беларускай літаратуры. Летась у нас закончыў вучобу адзін клас – дзевяты, які вучыўся з першага класа да апошняга на беларускай мове 20 чалавек. Засталося ў школе 13. Усе яны напісалі заявы на навучанне на рускай мове, працягваюць вучыцца ў дзесятым класе на расейскай мове. сем чалавек пайшло ў ПТВ. 32-я школа – сёння два профільныя класы. Беларуская мова вывучаецца на павышаным узроўні – 51 чалавек: 8 і 9 "г" класы. У сямі школах вядуцца факультатывы па беларускай мове і літаратуры. А калі гаварыць пра пазакласную работу, то ў доме дзіцячай творчасці, ва ўсіх школах ёсць фальклёрныя калектывы. У 22-й школе мы зрабілі школу "Абітурыент". Сабралі факультатывы з усіх школ і яны прыходзяць на базавую школу займацца на роднай мове. Геаграфія Беларусі – на роднай мове, Гісторыя Беларусі – таксама. Скажу яшчэ – **я асабіста катэгарычна супраць, каб навучанне вялося на беларускай мове**. Калі мы дзве трэці школ перавялі на беларускія рэйкі, то гэта нарадзіла шмат канфліктаў... На сённяшні дзень у нас працуе беларуска-славянская гімназія, у якой навучанне ідзе на роднай мове. Дык вось, большая частка бацькоў (у гэтым годзе я не падлічваў, а вось два гады назад, каля двухсот вучняў перайшло ў СШ-38, каб працягваць вучобу на расейскай мове) выказвае жаданне вучыць дачку ці сына на расейскай мове...

**Кар.** – А вы як-небудзь спрыялі таму, каб змяніць сітуацыю, каб дапамагчы дырэктару школы ў напаўненні школы тымі, хто жадае вучыцца на родній мове? Нават з другога канца горада?

**Л. С.** – Не...

**А. Л.** – А што плануеце больш канкрэтнага? Ці ёсць нейкае, хоць слабае святло, у канцы тунэля?

**Л. С.** – Калі ў дзіцячых садках ідзе працэс навучання на беларускай мове, яны лёгка засвойваюць праграму, любяць вітацца і развітвацца на роднай мове, дома размаўляюць з бацькамі, расказваюць вершыкі... І бацькі задаволены. Але гэта на пачатковым этапе, калі мова яшчэ гульня. Калі не ўсвойваюцца сур'ёзныя прадметы... А калі прыходзяць у школу, то найперш бацькі аддаюць дзіця, каб яно вучыла ангельскую мову, потым расейскую. Сёння камп'ютары, тэхнанізацыя – усё на расейскай ці ангельскай мове. І дзеці на вуліцы гавораць між сабой на ангельскай мове, як раней арыстакраты гаварылі на французскай... А вось на беларускай мове не пачуеш.

**Алег Леўшуноў:** - Пытанні выкарыстання рэгіянальнага кампаненту знаходзяцца на пастаянным кантролі адміністрацыі школ і аддзела адукацыі. Пры падвядзенні вынікаў гарадскога агляду-конкурсу "Лепшая школа горада" мы ўлічвалі і пытанні стаўлення да беларускай мовы і літаратуры. У СШ-24 пад кіраўніцтвам настаўніка гісторыі Д. Сасноўскага пачаў працаваць тэатральны гурток "Жыццё грамадства ў сярэднявеччы". Удзельнікі яго праводзяць рыцарскія турніры, танцы, валхаванне... А настаўнік беларускай мовы і літаратуры СШ-56 Сяргей Несцяровіч выдаў чатыры нумары літаратурна-гістарычнага альманаха "Хронас Палесся" – выданне аб'яднання "Хронас" Гомельскага маладзёжна-грамадскага аб'яднання "Гісторык". Праводзіцца настойлівая праца па стварэнні на базе ўсіх школ ТБМ.

Асабіста я лічу, што родную мову павінен дзіцёнак засвойваць з дашкольнага ўзросту. Я прайшоў, так бы мовіць, усю Сярэднюю Азію, і пераканаўся, той, хто ведае і любіць сваю родную мову, адчувае сябе ўпэўнена ў жыцці. Без яе ён адарваны ад роднай зямлі, ад духоўнай падтрымкі продкаў.

**Кар.** – Алег Фёдаравіч, а ў вас на якой мове вядзецца дакументацыя? На якой мове выступаеце і гаворыце з калегамі штодзённа?

**А. Л.** – Мы зрабілі зрэз думак і меркаванняў нашых настаўнікаў. 80 працэнтаў з іх заявілі, што неабходна на рускай мове. Я ўжываю ў размове толькі расейскую мову.

**Кар.** – Значыць, мы гэтую працу аддаем на волю настаўнікаў і бацькоў? А яны, як правіла, прывыклі ісці па дарозе найменшага супраціву... Тым больш, што за гэта іх ніхто не ўшчувае і не патрабуе, так?

**Уладзімір Барушкоў.** – У раёне другі год працуе "этнашкола" – эксперыментальная пляцоўка Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь у СШ-41, дзе дырэктар В. Лазечны. У гэтай школе надаецца вялікая ўвага беларускай мове, звычаям і абрадам беларускага народа, яго помнікам, фальклору, гістарычнаму мінуламу. Пад час вясновых канікулаў аддзел адукацыі правёў конкурс сярод вучняў старэйшых класаў "Горад над Сожам", які спрыяў выяўленню ведаў у вучняў аб культурных, гістарычных, літаратурных, эканамічных, этнаграфічных і геаграфічных асаблівасцях нашага роднага горада.

Можна шмат прыводзіць прыкладаў таго, што робіцца і будзе рабіцца ў гэтым кірунку. Але я думаю, што калі мы сёння гаворым аб выкананні "Закона аб мове", то павінны засяродзіць сваю ўвагу на тых момантах, якія нам перашкаджаюць якасна і плённа праводзіць гэтую работу. Мы мусім прызнаць, што ў грамадстве карыстанне роднай мовай не стала вялікай неабходнасцю. Гавораць альбо на расейскай, альбо на трасянцы. Вось мы гаворым і пытаемся адзін у аднаго – чаму мала беларускіх школаў, класаў, чаму неахвотна дзеці і настаўнікі далучаюцца да роднай мовы? Мы лічым так. Калі б ва ўсіх вышэйшых навучальных установах было выкладанне на беларускай мове, уступныя экзамены – на роднай мове, то гэтае пытанне, пра якое мы сёння гаворым, адпала б само па сабе.

**Кар.** – Згодзен. Таму мы і збіраем подпісы па ўсёй рэспубліцы за тое, каб хаця адна навучальная ўстанова ў Беларусі была нацыянальнай, беларускай, і ўжо тых подпісаў тысячы і тысячы... Думаю, што і школы Гомеля, усе да адной, паставяць свае подпісы за адкрыццё нацыянальнай ВНУ.

**А. Л.** – Так, і не толькі горада, а і вобласці. Гэта і нас турбуе, гэта прэстыж нашай дзяржавы.

**Кар.** – У Навабеліцкім аддзеле адукацыі дакументацыя на якой мове?

**У. Б.** – Нешта вядзецца на беларускай. Але 80 працэнтаў на расейскай – у нас жа сёння дзвюхмоўе...

**Кар.** – Якое ж гэта дзвюхмоўе? Гэта аднамоўе.

**Вадзім Сабко.** – У гэтым навучальным годзе ў школах горада навучанне беларускай мове і літаратуры вядзецца ў 23 профільных беларускіх класах (раней было 10) і ў класе з паглыбленым вывучэннем мовы, які адкрыты ў СШ-15. Два беларускамоўныя класы працуюць у СШ-45 – 8а, 9г. Паспяхова працуе беларуска-славянская гімназія № 36 імя І. Мележа, якая сёлета прайшла атэстацыю. У СШ-56 працуюць ліцэйскія 2-ія класы пры ГДУ імя Ф. Скарыны.



# Да сэрца кожнага

Кантрольныя праверкі па беларускай мове, якія былі праведзены ў мінулым годзе ў 48 навучальных установах горада, паказалі, што вучні 5-9 класаў маюць дастаткова высокі ўзровень ведаў, умення і навыкаў. Выніклі праверкі такія – "выдатна" атрымалі 35 адсоткаў вучняў, "добра" – 45, "здавальняюча" –13,5, і "нездавальняюча" – 6,5 адсоткаў. Пад час экзаменаў выпускнікі сярэдніх школ горада пішуць экзамен па беларускай мове як абавязковы, так і па выбары. Летась каля 3 тысяч адзінаццацікласнікаў пісалі дыктант па беларускай мове, з іх трэцяя частка пісалі дыктант па выбары. Выдатных было больш дваццаці адсоткаў экзамецыйных прац, на "добра" – каля 50, "здавальняльна" – 17,5.

Хачу адзначыць, што ў абласным цэнтры сёння працуе беларускамоўны дзіцячы садок № 161, а таксама 3 беларускамоўныя групы ў іншых садках. Лічым, што гэта недастаткова для такога вялікага горада, і таму мы будзем старацца, каб змяніць такое становішча ў лепшы бок. А для паляпшэння агульнай працы мы плануем, як ужо сказалі мае калегі, у кожнай школе горада стварыць аб'яднанні ТБМ з адначасовай падпіскай на газету "Наша слова".

**Надзея Котава.** – Інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі спецыялістаў адукацыі розных спецыяльнасцяў. Існуюць тры вучэбна-метадычныя аддзелы агульнаадукацыйных дысцыплін. Павышэнне кваліфікацыі праводзіцца праз курсавую падрыхтоўку. Кожны настаўнік раз у пяць гадоў павінен прайсці базавыя курсы. Акрамя базавага кампаненту, каб працаваць на апярэджванне ўсіх праблемаў у адукацыі, мы праводзім аўтарскія курсы, кароткатэрміновыя курсы па тых кірунках, аўтар яркіх сёння лічыцца найбольш прагрэсіўным. Калі гаварыць толькі пра беларускую мову, то настаўнікі толькі базавых курсаў правялі іх пяць. Адны мэтавыя і адны аўтарскія курсы кандыдата філалагічных навук Вольгі Аляксееўны Ляшчынскай. Калі гаварыць пра тую армію педагогаў, якія займаюцца сёння ўкараненнем (я падкрэсліваю – менавіта ўкараненнем роднага слова, бо сёння становішча з роднай мовай настолькі кепскае, што далей ужо нельга) налічвае 1539 настаўнікаў беларускай мовы па вобласці. Гэта апантаныя і прафесійныя педагогі, якія маюць высокую кваліфікацыю. Калі гаварыць у цэлым пра каманду Гомельшчыны, то тут малюнак такі – гамяльчане занялі другое месца на рэспубліканскай алімпіядзе. З іх – два вучні першае месца, два – другое, тры – трэцяе і сем вучняў былі прызёрамі. Ва ўсіх мерапрыемствах, няхай то пад эгідай з Гомеля ці Менска, мы абавязкова прымаем самы актыўны ўдзел.

Зусім нядаўна, у сакавіку, мы прынялі ўдзел у 5-м беларускім эпісталярным конкурсе "У гэтым лісце я пішу табе пра нашую дружбу і адрозненнях паміж намі". Гэта быў менавіта беларускі конкурс, у якім удзельнічалі і дэкламатары, і аматары пісьменства. Прымалі ўдзел у міжнародным конкурсе пад эгідай Юнісеф і Юнеска – "Дзеці свету пра Казахстан", у абласным конкурсе, які праводзіла нашая славянская бібліятэка – "Беларускі залатавуст". Вельмі цікавыя былі дзіцячыя складанні на гэтую тэму, і журы ацаніла іх высокі ўзровень.

Акрамя курсавой падрыхтоўкі, другім важным кірункам з'яўляецца міжкурсавая работа. Зноў жа, звязаная з праблемай апэраджвання падрыхтоўкі нашых выкладчыкаў на рэалізацыю выхавання і навучання вучняў.

Возьмем вузкі кірунак – беларушчына. Правадзілі шмат цікавых семінараў і іншых мерапрыемстваў. Навуковая праца. Тут ёсць шмат цікавых прыкладаў. Напрыклад, прарэктар па навукова-метадычнай працы Таццяна Шылько выпусціла ў свой час дапаможнік для дзяцей "Дзеці вучацца размаўляць па-беларуску". Нас радуе, што амаль усе выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры выкарыстоўваюць у працы гэты дапаможнік. Рыхтуем ужо і другі дапаможнік, "Беларускія сшыткі", і шмат іншых прац, якія педагогі з поспехам прымяняюць у сваёй працы.

Дакументацыю мы вядзём, як на рускай, так і на беларускай мове, можа і часцей на беларускай. Статут нашай установы зрабілі на роднай мове. У нас вельмі багатая бібліятэка. У нас практычна ёсць усё, што напісана беларускімі аўтарамі. Абласное ўпраўленне адукацыі нам шмат дапамагае ў гэтым кірунку, выдзяляе грошы для выдання прац, на падпіску. А адсюль і эффект нашай працы.

**Кар.** – Што сёння хацелася б памяняць, перайначыць, што замінае больш плённай рабоце на ніве адраджэння?

**Н. К.** – Агульнавядома, што сёння назіраецца незапатрабаванасць роднай мовы, пра што тут казалі перада мной мае калегі. Што мы можам на дадзеным этапе? Калі на ўзроўні школы існуе яшчэ нейкая зададзенасць і вымусовасць, то калі ўзяць дзіцячыя садкі, то тут нам ніхто рукі не звязвае – шырокае поле дзейнасці. Рэзерваў тут шмат, як з боку выхавальнікаў, так і навучальнага. Галоўнае – жаданне нашых людзей. І каб яшчэ жаданне падсілкоўвалася дапамогай вышэйстаячых арганізацый і нават урада. А сілкаванне – гэта грашовая зацікаўленасць.

**Кар.** – А адносіны бацькоў – яны ж могуць быць супраць?

**Н. К.** – Ды глупства ўсё тое! Ніколі мы не сустракалі супрацьу з боку бацькоў, наадварот, яны і нас падштурхоўваюць да больш актыўнага вывучэння. А калі мы праводзім ранішнікі ці святы на роднай мове ў садках, то гэта ж заўсёды сапраўднае свята! Дзеці выдатна дэкламуюць, запамінаюць любыя тэксты, нават яшчэ не ўмеючы і чытаць. Гэта ж якая магутная база, фундамент для таго, каб яны былі падрыхтаваныя ўжо да вучобы ў першым класе! Падрыхтаваны не толькі да беларускай ці расейскай мовы, а і да вывучэння іншых моў – ангельскай, нямецкай, французскай... Мой сын Дзіма, - Змітрок, вучыцца ў трэцім класе. І кожны дзень, хваліцца, як ён добра вывучыў беларускую мову, як навучыўся дэкламаваць вершы беларускіх паэтаў... І я гляджу, бачу, што такая ж радасць і зацікаўленасць і ў іншых бацькоў. Значыць, тут, на гэтым узроўні, перашкод няма. Яны пачынаюцца пазней, калі кожны задумваецца над тым, кім ён стане ў жыцці. І тады ўжо выбірае свой шлях, арыентуючыся на мову – ці то ангельскую, ці то расейскую, ці то родную...

Дык пра тое, што нас не задавальняе. Канешне ж, падручнікі. І ў асаблівасці што тычыцца беларускіх. Яны, калі можна так сказаць,трохі састарэлі. Мы, як спецыялісты бачым, што трэба, мяняць тэксты, падыходы да мовы. Мова ж развіваецца, з'явілася шмат новых таленавітых паэтаў і празаікаў. Іх творы, іх мову трэба ўключаць у падручнікі. Каб дзеці лёгка засвойвалі сваю ж мову, каб яна ім чулася мілагучна і прыгожа, была як песня, як калыханка мовы. На жаль, гэтага яшчэ няма... А калі гаварыць пра тэхнічныя ці матэматычныя дысцыпліны, дык часцей тут пераклад з расейскай, ды і не зусім удалы пераклад. А калі і па расейску складана напісана, то ў перакладзе гэта вельмі суха і не даходзіць да душы... Трэба прызнаць, што дзеці не ўмеюць лагічна гаварыць, даносіць да слухачоў свае думкі. Іх дыяпазон слоў вельмі абмежаваны. Не толькі на роднай мове, а і на расейскай, на жаль. Трэба ўводзіць у вучобу і выхаванне тэорыю літаратуры і мастацтва, дэкламаванне, культуру паводзін – і шмат чаго яшчэ, што практычна ў жыцці ў кожнага чалавека сустракаецца штодня...

Асабіста лічу, што гэта зусім няправільна, калі ў старэйшых класах па адной гадзіне ў тыдзень вывучаецца беларуская мова. Гэта я пра школьныя праграмы. Мяняць трэба іх, мяняць...

І – апошняе. Мяне заўсёды усцешвае і радуе, і падобраму зайздрошчу нашым двум супрацоўніцам – Шылько і Усовіч. Калі яны пачынаюць гаварыць між сабой, альбо выступаюць на семінарах і іншых імпрэзах, то заслухаюцца можна, як яны валодаюць родным словам. На расейскай так не могуць гаварыць, як на сваёй, беларускай. Вось бы і нам так усім, вось бы з іх браць такі прыклад...!

**А. Л.** – Вось і будзем браць з іх прыклад, будзем разам вучыцца думаць, пісаць і працаваць па-беларуску.

**Л. К.** – Мы ўсе падтрымліваем гэты заклік. Я думаю, што мы зможам шмат чаго змяніць, палепшыць, аднавіць. Я і Андрэй Васілевіч абраны ў склад абласной рады ТБМ, я з'яўляюся намеснікам старшыні абласной рады. Так што абставіны вымушаюць нас працаваць у цесным кантакце.

**Кар.** – Мы завяршылі гутарку. Я не даваў яе ў той транскрыпцыі, у якой вялі дыялог загадчыкі аддзелаў адукацыі. Можа адзін У. Барушкоў упэўнена, не збіваючыся, расказваў аб справах і праблемах. Л. Сямашка, як і два гады назад, пад час сустрэчы ў старшыні гарвыканкаму С. Якабсана спасылаўся на бацькоў, на іх волю, на якой вучыцца іх дзецям... Але не прывёў ніводнага факта і тады, і цяпер, як ён асабіста дамагаўся, каб змяніць становішча з аднаўленнем школ і класаў, якую канкрэтна дапамогу аказаў ён і начальнік упраўлення адукацыі горада дырэктару гімназіі Т. Цыганок.

Адно радавала ў нашай гутарцы. Усе разумелі праблему, і яе горача падтрымлівае А. Лук'яновіч. Вырашылі разам за "круглым сталом":

--у кожнай школе стварыць першасныя суполкі ТБМ імя Францішка Скарыны. Кожная суполка будзе мець хаця б адну падпіску на "Нашае слова". Наладжваецца цесная супрацоўніцтва з гарадскім аб'яднаннем ТБМ, якое ўзначальвае Д. Паўлавец.

--да гэтай праблемы вярнуцца праз нейкі час. І зноў, ужо больш дэталёва разабраўшыся на месцы, у школах, на старонках газеты расказаць аб зменах альбо пра тое, што нічога не скранулася з мёртвай кропкі...

На тым і пагадзіліся...

*Анатоль Бароўскі, уласны карэспандэнт газеты "Наша слова", Старшыня Гомельскага абласнога грамадскага аб'яднання ТБМ імя Ф.Скарыны*

## Справаздача аб дзейнасці бібліятэкі ТБМ за перыяд з верасня 2000 па чэрвень 2001 года

У адзначаны перыяд дзейнасць бібліятэкі развівалася ў трох асноўных кірунках:

1. Папаўненне фондаў бібліятэкі новай літаратурай згодна з мэтамі дзейнасці бібліятэкі (у тым ліку рарытэтнымі выданнямі, выяўленчымі матэрыяламі, перыёдыкай);
2. Абслугоўванне чытачоў;
3. Папаўненне карткавых каталогаў і электроннага каталогу бібліятэкі; вядзенне ўліку камплектавання і абслугоўвання.

***1. Папаўненне фондаў бібліятэкі*** новай літаратурай згодна з мэтамі дзейнасці бібліятэкі ( у тым ліку рарытэтнымі выданнямі, выяўленчымі матэрыяламі, перыёдыкай)

Фонды бібліятэкі папаўняліся згодна з асноўнымі мэтамі дзейнасці бібліятэкі ТБМ, а менавіта збор беларускай літаратуры і літаратуры пра Беларусь на розных мовах свету.

За справаздачны перыяд фонды бібліятэкі папоўніліся больш як за 200 асобнікаў кніг і на сёння складаюць больш за 1100 адзінак. Найбольш каштоўнымі набыткамі за перыяд з верасня 2000 года па чэрвень 2001 года сталі такія рарытэтныя кнігі, як "Купала Я. Адвечная песня. – Пецярбург, 1907", "Колас Я. Другое чытанне для дзяцей беларусаў" і іншыя рэдкія кнігі, выдаваныя на Беларусі і за яе межамі на пачатку XX ст.

Была атрымана партыя кніг, што былі выдадзеныя на беларускай мове ў Польшчы (беластоцкія выданні 1996 – 2000 г.г.).

У бібліятэку паступіла значная колькасць выданняў з аўтографамі сучасных беларускіх літаратараў і навукоўцаў.

***2. Абслугоўванне чытачоў.***

У бібліятэцы наладжанае сталае абслугоўванне чытачоў па індывідуальных запытах. Акрамя таго, былі праведзеныя масавыя мерапрыемствы па азнаямленні студэнтаў ВНУ з бібліятэкай ТБМ, задачамі і кірункамі яе дзейнасці, была арганізаваная выстава рарытэтных кніг з фондаў бібліятэкі.

***3. Папаўненне карткавых каталогаў і электроннага каталогу бібліятэкі;*** вядзенне ўліку камплектавання і абслугоўвання.

У бібліятэцы вядзецца ўлік новых паступленняў кніг і перыядычных выданняў, арганізаваныя і папаўняюцца карткавыя алфавітны і сістэматычны каталогі. Вядзецца вялікая работа па папаўненні электроннага каталогу кніг, які прадстаўлены ў Internet. Магчымасці электроннага каталога дазваляюць весці пошук літаратуры па разнастайных прыкметах (па аўтары, тэме, выдавецтве, даравальных подпісах, прозвішчах фундатара і інш.).

*Вабішчэвіч Таццяна, загадчыца бібліятэкі ТБМ*

## Справаздача Беларускага відэаклуба ТБМ за 2000 год

У 2000-м годзе Беларускі відэаклуб ТБМ выдаў відэакасеты "Фільмы з удзелам Віктара Шалевіча" (зборнік з фільмаў "Слёзы блуднага сына" і "Салодкі яд кахання") і "На чорных лядах" (фільм паводле аднайменнага твору Васіля Быкава.

Беларускі відэаклуб ТБМ дамовіўся з Беларускай асацыяцыяй недзяржаўнага тэлебачання наконт паказу перакладзенай па-беларуску гістарычнай стужкі "Адважнае сэрца" на рэгіянальных тэлеканалах.

Ладзіліся паказы ў імпразаваным відэасалоне на сядзібе ТБМ.

Зараз Беларускі відэаклуб закончвае працу над перакладамі фантастычнай стужкі "Матрыца" і экранізацыі твору Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш".

Таксама Беларускі відэаклуб пашырыў змест сваёй інтэрнэт-старонкі. Цяпер на ёй акрамя звестак пра наяўную відэапрадукцыю на беларускай мове з'явіліся звесткі пра планы Беларускага відэаклуба і інфармацыя пра сусветнае кіно з класіфікацыяй па рэжысёрах, акторах і г.д., а таксама звесткі пра лаўрэатаў штогадовай узнагароды "Оскар" і рэйтынг фільмаў паводле і касавасці.

Нашыя каардынаты:
220107, Менск, а/с 150
тэл. (017) 213-4352, 240-7801
E-mail: belvidea@hotmail.com
Інтэрнэт: http://belvidea.cjb.net

*Віталь Станішэўскі, кіраўнік Беларускага відэаклуба ТБМ.*

# Беларуская мова ў ВНУ Беларусі

**У красавіку кіраўніцтва ТБМ звярнулася да ўсіх рэктараў дзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў Беларусі з лістом наступнага зместу:**

*Паважаны сп. Рэктар!*

***Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" на працягу апошніх 4-х гадоў выступае за стварэнне беларускамоўных плыняў ва ўсіх вышэйшых навучальных установах Рэспублікі Беларусь. На зварот у Міністэрства адукацыі па гэтай праблеме мы атрымалі адказ, што распрацавана новая праграма падтрымкі беларускай мовы ў сферы адукацыі. Спадзяемся, што Ваша паважаная ўстанова не застанецца ўбаку ад працэсаў пашырэння сферы ўжывання беларускай мовы ў вышэйшай адукацыі.***

***Наша арганізацыя плануе правесці кампанію па інфармаванні насельніцтва аб магчымасцях атрымання вышэйшай адукацыі на дзяржаўнай беларускай мове ў гэтым навучальным годзе. Таму просім Вас паведаміць наступнае:***

***1) на якіх факультэтах і па якіх спецыяльнасцях Вашай навучальнай установы будзе ажыццяўляцца набор у беларускамоўныя групы ў 2001-2002 навучальным годзе.***

***2) ці плануецца павелічэнне колькасці беларускамоўных груп у бліжэйшыя 5 гадоў і па якіх спецыяльнасцях.***

***Дасылаем Вам таксама праект стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI ст. Просім выказаць свае канкрэтныя прапановы і заўвагі.***

*З павагай і надзеяй на плённае супрацоўніцтва*
*Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"*
*Алег Трусаў.*

**"Наша слова" пачынае друкаваць адказы, што паступілі і паступаюць з розных ВНУ Беларусі.**



МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
МАГІЛЕЎСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ТЭХНІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ (МДТУ)
212005, г.Магілеў, пр. Міра, 43

МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
МОГИЛЕВСКИЙ ГОСУДАРСТВЕННЫЙ ТЕХНИЧЕСКИЙ УНИВЕРСИТЕТ (МГТУ)
212005, г.Могилев, пр. Мира, 43

Тел. (0222) 23 61 00, факс 22 58 21, 25 80 91,
Email: jsk@mmi.mogilev.unibel.by

28.05.01 № 29-801/1
на №

28.05.01 № 29-801/1

**Старшыні ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"**
**Алегу Трусаву**

На Ваша пісьмо ад 19.04.2001 г. за № 223 інфармуем аб рабоце, якая праводзіцца ў нашай навучальнай установе па вывучэнню беларускай мовы.

Студэнты ўсіх спецыяльнасцяў на першым курсе вывучаюць беларускую мову ў аб'ёме 60 гадзін. Заклік і экзамен з'яўляецца формамі кантролю.

На шэрагу патокаў гісторыя Беларусі (90 гадзін) выкладаецца на беларускай мове. Для ўсіх студэнтаў эканамічнага факультэта "Эканамічная гісторыя Беларусі" (54 гадзіны) чытаецца на беларускай мове.

У нашай навучальнай установе для ўсіх студэнтаў курс "Гісторыя культуры Беларусі" (36 гадзін) выкладаецца на беларускай мове.

Палова студэнтаў усіх спецыяльнасцяў вывучае дысцыпліну "Правы чалавека" (20 гадзін) на дзяржаўнай беларускай мове.

На беларускай мове выдаюцца вучэбна-метадычныя рэкамендацыі па шэрагу дысцыплін, якія вывучаюцца ў нашай навучальнай установе.

Для далейшага пашырэння функцыянавання беларускай мовы і стварэння ўмоў для атрымання вышэйшай адукацыі на беларускай мове патрэбна, на наш погляд, наступнае:

1. Скласці тыпавыя праграмы па гуманітарных дысцыплінах на беларускай мове.
2. Распрацаваць і выдаць навучальную літаратуру на адпаведнай мове.
3. Наладзіць каардынацыю паміж ВНУ для абмену літаратурай, якая выдаецца на рэгіянальным узроўні.
4. Для атрымання вышэйшай адукацыі на беларускай мове таксама патрэбна ўлічваць, у першую чаргу, пажаданні навучэнцаў. На сённяшні дзень ніхто з абітурыентаў з такой прапановай да кіраўніцтва нашай установы не звярнуўся.

*Рэктар Ігар Сазонаў.*



МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ КУЛЬТУРЫ
220001, Мінск, вул.Рабкораўская, 17.
Тэл. 222-83-71, факс (017)222-24-09, e-mail: rector_buc@yahoo.com
Разліковы рахунак 3620002890405 у ф-ле 502 АСБ "Беларусбанк" г.Мінска, код 607
УНН 100286677 ОКПО 02072096

Ад 7.05.2001 № 01-08/371
На № ____ ад ____

Ад 7.05.2001 г. № 01-08/371

**Сп. А. А. Трусаву**
**Старшыні ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"**

Шаноўны Алег Анатоллевіч!

Рэктарат БДУ культуры азнаёміўся з праектам стратэгіі развіцця беларускай мовы у XXI ст. і лічыць мэтазгодным давесці да Вашага ведама, напэўна, вядомую інфармацыю. На працягу ўсіх гадоў існавання універсітэта рэктарат робіць усё магчымае для шырокага ўжывання роднай мовы ў стасунках супрацоўнікаў і студэнтаў.

Ва універсітэце культуры рабочай мовай, пачынаючы з 1992 года з'яўляецца беларуская, на ёй вядзецца усё справаводства, перапіска з дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі. Большасць гуманітарных і спецыяльных дысцыплін выкладаецца на беларускай мове. Ва універсітэце створана друкарня, якая выпускае вучэбныя дапаможнікі і праграмы на беларускай мове.

Вялікую ўвагу надае рэктарат фармаванню беларускамоўнага рэпертуару мастацка-творчых калектываў.

У адукацыйныя стандарты і вучэбныя базавыя планы ўключана дастаковая колькасць беларусазнаўчых дысцыплін, вывучэнне якіх паглыбляе веды па тэорыі і гісторыі нацыянальнай культуры і мастацтва. Штогод па дзённай і завочнай формах навучання ствараецца 12 беларускамоўных плыняў, якія складаюцца з 53 акадэмічных груп. Такім чынам, у БДУ культуры ў даны момант налічваецца 265 акадэмічных груп, дзе выкладанне большасці вычэбных дысцыплін ажыццяўляецца на беларускай мове.

З павагай

*Прарэктар, прафесар* *А. І. Смолік.*



Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь
Установа адукацыі "Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы"
*Адрас:* вул.Ажэшкі 22, 230023, г.Гродна
*Тэлефоны:* прыёмная (0152)44-83-13, канцылярыя (0152)44-84-61, факс (0152)44-84-61
*E-mail:* root@mail.grsu.grodno.by

28.05.2001 № 10/1655
На № 225 ад 19.04.2001

28.05.2001 г. № 10/1655
на № 225 ад 19.04.2001 г.

**Старшыні Таварыства беларускай мовы**
**імя Ф. Скарыны**
**спадару А.Трусаву**
**220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13**

Паважаны спадар Алег Тусаў!

У адказ на Ваш ліст паведамляем, што падтрымцы беларускай мовы ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы надаецца вялікая ўвага. Справаводства, паседжанні Савета універсітэта, рэктарата вядуцца, у асноўным, на беларускай мове. Даволі вялікая колькасць дысцыплін на ўсіх факультэтах таксама выкладаецца на беларускай мове.

Разам з тым, аналіз існуючага становішча паказвае, што стварэнне поўнасцю беларускамоўных груп пакуль што, на жаль, з'яўляецца праблематычным. Для развіцця і пашырэння ўжытку беларускай мовы патрэбна больш мэтанакіраваная праца дзіцячых выхаваўчых устаноў і сярэдняй школы.

У 2001-2002 навучальным годзе на спецыяльнасці "Гісторыя" плануецца адкрыццё беларускамоўнай плыні. У адпаведнасці з гэтым у наступныя, як мінімум, 5 гадоў будзе фармавацца па адной беларускамоўнай групе.

Акрамя таго, на аддзяленні беларускай і славянскай філалогіі большасць дысцыплін выкладаецца на беларускай мове. У бліжэйшы час (3-4 гады) плануецца правесці выкладанне ўсіх дысцыплін на беларускую мову.

З павагай

*Рэктар С. А. Маскевіч.*



БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ ПОЛІТЭХНІЧНАЯ АКАДЭМІЯ
220027, Мінск, пр. Ф.Скарыны, 65
Тэл. (017) 232-77-52 Факс (017) 232-91-37

БЕЛОРУССКАЯ ГОСУДАРСТВЕННАЯ ПОЛИТЕХНИЧЕСКАЯ АКАДЕМИЯ
220027, Минск, пр. Ф.Скорины, 65
Тел. (017) 232-77-52 Факс (017) 232-91-37

11.05.2001 № 01-1090

11.05.2001Г. № 01-1090

**Грамадскае аб'яднанне**
**"Таварыства беларускай мовы**
**імя Францішка Скарыны"**
**Старшыні Алегу Трусаву**

ПАВАЖАНЫ СТАРШЫНЯ!

Паведамляем Вам аб тым, што студэнты ўсіх спецыяльнасцяў акадэміі вывучаюць беларускую мову ў памеры 60 гадзін, гісторыю Беларусі – 110 гадзін, беларусазнаўства – 48 гадзін, таксама шэраг спецыяльных дысцыплін вядзецца прафесарска-выкладчыцкім складам на дзяржаўнай беларускай мове, напрыклад:

**Гісторыя Беларусі (для ўсіх спецыяльнасцяў)**
Баландзін К. І. – к. гіс. н., дац.
Лойка Т. В. – к. гіс. н., дац.
Багдановіч А. Г. – к. гіс. н., дац.
Арбузаў А. Ц. – к. гіс. н., дац.
Ліўшыц С. Ю. – к. гіс. н., дац.
Хромчанка Д. М. – к. гіс. н., дац.

**Беларусазнаўства (для ўсіх спецыяльнасцяў)**
Лойка Т. В. – к. гіс. н., дац.
Мыцько В. Г. – к. гіс. н., дац.

**Філасофія, рэлігіязнаўства, этыка (для ўсіх спецыяльнасцяў)**
Анцыповіч М. В. – к. філ. н., дац.

**Эстэтыка (для ўсіх спецыяльнасцяў)**
Русінскі А. У. – выкладчык

**Эканаічныя тэорыі (для ўсіх спецыяльнасцяў)**
Кажура М. Я. – к. эк. н., дац.
Ванькевіч А. І. – к. эк. н., прафесар

**Вышэйшая матэматыка (для спец. "Будаўнічыя і дарожныя машыны")**
Сухая Т. А. – к. ф.-м. н.,дац.

**Агульны курс транспарту**
**Гарадскі электрычны транспарт**
**Лагістыка (для спец. "Арганізацыя руху і кіраванне на транспарце")**
Паўловіч А. А. – к. т. н., дац.

**Інжынерная геадэзія (для будаўнічых спец.)**
Мархвіда В. Г. – к. т. н., дац.

**Інжынерная геалогія (для будаўнічых спец.)**
Касцюковіч П.М. – д. т. н., прафесар

20.02.2001 г. адбыўся сход суполкі Таварыства беларускай мовы, на якім быў абраны новы старшыня суполкі – Гіруцкая Л.А.

На сённяшні дзень сябрамі суполкі ў БДПА з'яўляюцца:

| | |
|---|---|
| Гіруцкая Л. А. (старшыня) | Арбузаў А. Ц. |
| Баландзін К. І. | Міцкевіч К. М. |
| Багдановіч А. Г. | Дземідовіч Г. П. |
| Міклашэвіч У. А. | Шастаковіч А. В. |
| Качаноўская Н. Г. | Бубноў В. Ф. |
| Несцяронак М. С. | Сухая Н. А. |

*Прарэктар К.І. Баландзін.*



Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь
Беларускі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт
Вул. Свярдлова, 13-А, 220050, Мінск, Рэспубліка Беларусь
тэл.: (0172) 226-14-32, 227-62-17
факс: (0172) 227-62-17, (0172) 226-10-75
Электронная пошта: root@bstu.unibel.by

Министерство образования Республики Беларусь
Белорусский государственный технологический университет
Ул. Свердлова, 13-А, 220050, Минск, Республика Беларусь
тел.: (0172) 226-14-32, 227-62-17
факс: (0172) 227-62-17, (0172) 226-10-75
Электронная почта: root@bstu.unibel.by

20.05.2001 № 1391

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
**Сп. А.Трусаву**

На Ваш запыт наконт набору ў беларускамоўныя групы паведамляем, што ў БДТУ частка дысцыплін выкладаецца на беларускай мове. Сярод іх ёсць гуманітарныя, прыродазнаўчыя і спецыяльныя дысцыпліны.

З мэтай падтрымкі беларускай мовы ў сферы адукацыі ў БДТУ актыўна ажыццяўляецца падрыхтоўка і выданне падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў з грыфам Міністэрства адукацыі, што дазваляе забяспечыць попыт беларускамоўнай часткі студэнтаў.

*Прарэктар па выхаваўчай рабоце Г. М. Хвясько.*





# Нацыянальны музей у Старых Дарогах

У Вялікім Княстве Літоўскім было шмат прыватных музеяў. Кожны магнат лічыў за гонар мець яго. Некаторыя з іх сваёй вартасцю пераўзыходзілі музеі Каралеўскага Двара. Пры далучэнні да Расіі ўсе яны зніклі, а іх экспанаты папоўнілі выставачныя залы Эрмітажу, музеі, бібліятэкі Пецярбурга, Масквы ды іншых гарадоў. Калі ў Расіі павага да сваёй нацыянальнай культуры пачалася ў канцы XIX пачатку XX стагоддзя, то ў Беларусі яна да гэтага часу затармажана, замаруджана, замардаваная.

Стварэнне прыватнага музея ў Старых Дарогах Анатолем Белым, выкладчыкам БДУ, вядомым мастацтвазнаўцам і калекцыянерам, грамадскім дзеячом, актывістам Таварыства беларукай мовы імя Францішка Скарыны, ёсць знакамітая падзея ў адраджэнні нацыянальнай культуры Беларусі, вяртанне да старых традыцый.

Да бацькоўскага дому былі прыбудаваны па адпаведнаму праекту двухпавярховыя будынкі. Першая чарга музея была адкрыта ў 1999 годзе, а трэцяя – 22 красавіка б. г. Дзеля гэтай падзеі быў выдзелены аўтобус і запрошаны з Менску прадстаўнікі мастацтва, культуры, журналісты, літаратары, навукоўцы, актывісты ТБМ і сябры клуба "Спадчына".

Залы: "Старажытная Беларусь", "Маладая Беларусь", "Дзеячы беларускага адраджэння", "Любіць Радзіму – шанаваць родную мову", "Беларускае незалежнае мастацтва" змясцілі 1200 твораў выяўленчага мастацтва. Багата прадстаўлены медальерныя творы, іх больш 500 – з чыгуну, срэбра, фарфору, керамікі. Ёсць унікальная – са шкла. Цэлая зала адведзена мастаку Пятрухіну. Сто пяцьдзесят яго твораў перададзена музею. Рыхтуецца экспазіцыя, прысвечаная Ф. Скарыну.

Наведвальнікі музея адзначылі, што гэта ёсць сапраўды нацыянальны музей і ёсць вялікі ўнёсак у стварэнне рэальнай нацыянальнай дзяржавы, яе культуры. "Вяртанне да старых дарог", - так сімвалічна сказала пры адкрыцці актывістка ТБМ, сябра клуба "Спадчына" паэтэса Святлана Багданкевіч. На імпрэзе выступілі:

**Вольга Іпатава, старшыня Саюза пісьменнікаў**, - "Вялікая з'ява, што ўсё гэта можна адкрыта бачыць. Нельга застацца раўнадушным пасля прагляду...";

**Аляксей Саламонаў, доктар тэхнічных навук, прафесар**, - "Не знікае перасцярога за стан нацыянальнай культуры. Наступ на беларускае працягваецца. Стварэнне музея ёсць важкі ўклад, каб захаваўся наш род беларускі і ўвайшоў у міжнародную супольнасць на роўных. Трэба ўшанаваць жонку Анатоля Белага Алу Мікалаеўну і дачку Святлану, без іх не было б гэтага музея...";

**Георгі Штыхаў, доктар гістарычных навук, прафесар**, - "Створаны сапраўды асяродак беларушчыны ў Старых Дарогах. Уражваюць карціны "Слуцкі збройны чын", "Бітва пад Воршай"... Тут можна вывучаць гісторыю Беларусі...";

**Яўген Гучок, сябра ТБМ і клуба "Спадчына"**, - "Не важна дзе будзе ляжаць твая цагліна ў муры Адраджэння, зверху ці знізу, галоўнае, каб яна там ляжала...".

Многія з выступоўцаў нешта даравалі музею. Вольга Іпатава, Георгі Штыхаў падарылі свае кніжкі, мастак Міхась Карпюк – дзве карціны, а таксама перадаў добрыя словы і карціну ад мастака Уладзіміра Стальмашонка, які па стану здароўя не змог прыехаць. Паэт Лявон Эмеліт – Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь з выявай "Пагоні". Сказалі шчырыя словы і пажадалі плёну Беламу: рэдактар "Беларускага гістарычнага часопіса" Сымон Барыс, сябры клуба "Спадчына" Аксана Багдановіч і Ядвіга Пятроўская, ад мясцовых жыхароў – Яніна Мурашка ды іншыя.

Пасля імпрэзы і прагляду твораў музея на роздуме застаешся з пытаннем без адказу: Чаму да такой падзеі абыякавыя Міністэрства культуры, мясцовыя ўлады, ды некаторыя мэтры нацыянальнага адраджэння, праігнараваўшыя падзею, ад якіх Анатоль Белы не прасіў ні капейкі. Ці не праява гэта затарможанасці? А мо параліч страху, ці зайздрасці нездаровай?



Перад музеем



У музеі з Анатолем Белым

*Мікола Лавіцкі, сябра клуба "Спадчына".*

# Урокі роднай мовы ў Чэхіі

Кожны год дзеці нашай пачатковай школы ездзяць у Чэхію. Ездзілі і сёлета. Жылі мы там цэлы месяц. Жылі і вучыліся. Былі ў нас там і ўрокі роднай мовы і чытання. На ўроках нашай мовы мы пісалі шмат кантрольных дыктантаў, пераказаў ды спісванняў. Асабліва мне спадабаўся пераказ пра верабейку, кветку і калматага незнаёмца – чмяля. У ім апавядаецца пра тое, як верабейка пасябраваў з кветкай і прагнаў прэч чмяля ад яе, думаючы, што гэта шкоднік. З правілаў мы вучылі пра склад слова. Цяпер я ведаю, што слова складаецца з кораня, прыстаўкі, суфікса і канчатка. Яшчэ я даведаўся пра тое, што словы з аднолькавым коранем называецца роднасным альбо аднакаранёвым. Але роднаснымі бываюць не толькі словы, але і мовы. Чэшская мова роднасная беларускай. У ёй, бывае, чуюцца гэтакія ж словы, як і ў беларускай. Калі ездзілі па Празе, то амаль усе вуліцы стракацелі шыльдамі, і мы некаторыя з іх стараліся чытаць. Напрыклад: pivovar – півавар – бровар, hypermarket – хупэрмаркэт – супермаркет.

Некалі немцы хацелі чэхаў анямечыць. Хутка ўжо мала хто з чэхаў памятаў сваю родную мову. Але хутка апаматаліся яны і зразумелі, што няма даражэй на свеце нічога за сваю родную мову. Чэхі карыстаюцца лацінскім алфавітам, а так, як мы вывучаем ангельскую мову, то нам было досыць лёгка чытаць.

У Чэхіі я яшчэ вывучыў байку Міхася Скрыпкі "Дзве пілы" і за гэта атрымаў пяцёрку.

У Чэхіі ўсе размаўляюць на чэшскай мове. Чэхі любяць сваю мову. А мы?

Я ўжо быў у Чэхіі два разы. Абедзьве гэтыя паездкі былі аднолькава цікавыя, прыгожыя, карысныя.

У маёй першай паездцы мы вучылі святыя чэшскія песні. Адна з іх пачынаецца так: "Хрустус сэ нам на-ародзіл, на-ародзіл, на-ародзіл. Поклонь мэ, поклонь мэ, поклонь мэ, сэ ему". А навучыў нас гэтым чэшскім песням-малітвам дзядзечка Ян Карлавіч. Развучыў ён з намі, акрамя чэшскай, яшчэ і беларускую, і рускую, і польскую песні.

У Чэхію я браў і нашага "Вожыка". Хлопчыкі яго глядзелі, гарталі і смяяліся з карыкатур.

У Чэхіі ўжо на другім тыдні мне хацелася дадому, дахаты, да мамы, таты і брата.

*Сержык Чылікін-Садэльскі, г. Менск, вучань 3 "В" класа.*

# Сумны ці радасны факт?

У БДЭУ выкладаю прадметы па інфарматыцы на беларускай мове. Студэнты завочнай формы навучання ў межсесійны перыяд выконваюць кантрольныя работы. Са 115 студэнтаў адной плыні 2-га курса толькі адна студэнтка Валянціна Дамброўская выканала работу на беларускай мове па прадмеце "Прыкладныя сістэмы апрацоўкі інфармацыі". Яна яшчэ раз пацвердзіла, што беларуская мова знаходзіцца ў поўным суладдзі з сучаснымі кампутарнымі тэхналогіямі. Адрас Валянціны: 220023, Менск, вул.Кедышка, 17А, кв.65. Адказ на пытанне ў назве матэрыялу – за чытачом.

*Прафесар Мікола Савіцкі.*

# Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!

***Шаноўнае спадарства! Ідзе падпіска на газету "Наша слова" на трэці квартал. Цана вырасла нязначна. Мы і толькі мы забяспечым вас усёй інфармацыяй па праблемах беларускай мовы ў нашай краіне. За 1644 рублі вы будзеце штотыднёва мець у сваёй хаце самую беларускую газету на Беларусі на працягу паўгода.***

***Сакратарыят ТБМ нагадвае кіраўнікам структураў ТБМ, што яшчэ ёсць магчымасць падпісаць газету "Наша слова" на 3-ці квартал для бібліятэк, бальніц, дзіцячых дамоў і садкоў за кошт ТБМ. Для гэтага трэба даслаць запоўненыя квіткі на адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.***

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2001 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 1644 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча,ініцыялы)

№ 24 (512) 13 ЧЭРВЕНЯ 2001 Наша Слова

Язэп Палубятка



*(Працяг. Пачатак у студзені-лютым)*

Упэўненасць паступова пачала пераходзіць у спадзяванне, а выпітае піва з кожнаю адрыжкаю ўзмацняла апетыт.

Першы сакратар райкама партыі, як і належыць камуністу, па-геройску змагаўся з голадам.

Прайшло яшчэ паўгадзіны. Антон Пятровіч са злосці пачаў адшчыпваць ад смажанай качкі па маленькаму кавалачку мяса, клаў яго ў рот і адразу ж глыкаў.

Чаго толькі не было сказана ў думках за гэтыя паўгадзіны пра галоўнага ўрача: ён атрымліваў тысячу чарцей і на яго галаве часалі кол, задавалі яму пад адно далікатнае месца жару і жадалі трасцы ў бок, а ліха ў прыдачу.

Калі Антон Пятровіч адчуў, што ад смажанай качкі засталіся толькі голыя рэбры, супакоіўся, спахапіўся ды давай азірацца, ці хто не назірае за ім, прыслухоўвацца, ці хто не падслухоўвае яго. Толькі пасля таго, як упэўніўся, што ён адзін у палаце, Крыніца схапіў пляшку і залпам заглыкнуў піва, затым навёў парадак: схаваў рэшткі сняданку (абшчыпанае тулава качкі і пустыя пляшкі з-пад піва) у сумку.

Закончыўшы другі сняданак, ён лёг у ложак і стаў далей чакаць доктара...

У гэты момант першага сакратара напаткала невясёлая думка. Адсутнасць доктара мела пад сабою благую падставу і магла азначаць толькі адно: справы яго дрэнь.

У дзевяць гадзін раніцы адна нянечка, якая ад няма чаго рабіць швэндалася па бальнічных калідорах, сумысна націснула на ручку дзвярэй знакамітай на ўсю райбальніцу палаты, і дзверы нespадзявана для яе прачыніліся. Вялікае прызначэнне гэтага пакоя жанчына таксама ведала, і таму яе ахапіла нястрыманае жаданне паглядзець на чарговую каханку галоўнага ўрача: ці маладая, ці прыгожая, а зрэшты — хто яна? Яна прачыніла дзверы палаты настолькі, каб змагла пралезці галава, і... зазірнула туды. Мужчына?!.. Які рэдкі выпадак!.. Здзіўленню яе не было мяжы.

Нянечка хацела зачыніць дзверы, але ў гэты момант мужчына патрабавальным голасам сказаў:

— Хвіліначку! Хві-лі-нач-ку!

Пасля гэтых слоў галава ў дзвярах застыла ў чаканні.

Крыніца проста быў упэўнены, што калі кудлатая галава знікне за дзвярыма, то да яго ўжо ніхто не прыдзе, і таму ён вырашыў неадкладна дзейнічаць.

— Калі ласка! Зайдзіце сюды! — загадаў ён.

Жанчына нясмела зайшла.

— Я першы сакратар райкама партыі таварыш Крыніца Антон Пятровіч.

Грозную асобу, чыім іменем яе страшылі ўсё жыццё, усюды і штодня, нянечка бачыла ўпершыню. Жанчыну ахапіў страх перад такім вялікім начальствам.

— Хто вы?

— Нянечка Тоня, — спалохана адказала жанчына.

— Як вы сказалі? — строга, зусім як на прыёме беспартыйных наведвальнікаў у сваім кабінеце, перапытаў Крыніца. — Прабачце, не зразумеў.

— Антаніна Якімчык.

— Добра, таварыш Якімчык. Вы клікніце да мяне галоўнага ўрача. Ён, я бачу, чалавек не сур'ёзны ў вас. Умее толькі даваць абяцанні, а забывае іх выконваць. Напомніце яму.

— Зараз, бягу.

Жанчына, калоцячыся з перапуду, выйшла з палаты.

Якімчык ішла да галоўнага ўрача і кляла сябе на ўвесь белы свет за тое, што яе спакусіў зазірнуць у гэтую палату нячысцік. Кляла яна сябе і за тое, што не прайшла міма, не пайшла другім паверхам, а ў рэшце не зламала сабе нагу на лесвіцы.

Звычайна шырокі бальнічны калідор раптам здаўся нянечцы вузенькім-вузенькім, а белыя сцены казённай установы зрабіліся чорнымі.

Сёння была серада, і ў галоўнага ўрача райбальніцы быў прыёмны дзень. І па шматгадовай традыцыі ў гэты дзень да Улановіча ішлі толькі здаровыя людзі, каб вырашыць пытанні, якія не датычылі хворых.

Абысці чаргу нянечка Тоня не змагла. Яе спынілі добрыя малойцы, якія ў асноўным мелі мэту, каб выкарыстаць сваё асабістае знаёмства з галоўным урачом і выклянчыць у яго звычайныя лекі, што ў апошні час сталі дэфіцытам, ці выбіць месца ў абласной бальніцы для хворага сваяка, альбо заручыцца падтрымкай Улановіча, каб атрымаць неабходныя подпісы і заключэнні аб неісных хваробах сваіх, і, як вынік, мець дарэмную пуцёўку на Чорнае мора.

Урэшце, пасля невялічкага шуму нянечка Тоня вымушана была запісацца на прыём і стаць у агульную чаргу. Сакратарка Улановіча — бюракратычная душа! — акуратна перапісала ў кнігу рэгістрацыі наведвальнікаў усе звесткі. Потым спытала, з якім пытаннем старая сунецца да Сцяпана Сцяпанавіча. Нянечка Тоня адказала горда:"Крыніца паслаў".

Сказаная чарга сустрэла гулам незадавальнення.

— Бач, якая яна хітрая!

— Думае, што мы дурні!

— Добрага дзядзю знайшла!

У тым злым і непрымірымым натоўпе знайшоўся нават адзін жартаўнік, які саркастычна заўважыў:

— Мусіць, напэўна, наш першы сакратар райкама партыі?

Антаніне Якімчук здалося, што гэта адзіны сур'ёзны тут чалавек. Пры сваёй чатырохкласнай адукацыі яна не магла ведаць усіх аратарскіх прыёмаў, якімі умеюць карыстацца людзі з вышэйшай адукацыяй. На несур'ёзную заўвагу даволі сур'ёзнага чалавека (у акулярах усё ж) яна адказала сціпла:

— Ну, першы сакратар паслаў.

Потым жанчына ніяк не магла зразумець чаму натоўп ахапіў істэрычны смех.

З першага заходу паведаміць галоўнаму ўрачу райбальніцы пра тое, што яго патрабуе да сябе першы сакратар райкама партыі, нянечка Тоня не змагла.

У прыёмную зазірнуў загадчык аддзялення, дзе працавала Антаніна Якімчык.

— Што вы тут робіце? — грозна запытаў яе началь-нік.

— Крыніца паслаў, — уціснуўшы галаву ў плечы, адказала жанчына.

Загадчыка аддзялення грознае імя нічога не гаварыла. Увогуле, ён аўтарытэтаў не прызнаваў: для яго што Крыніца, што Гарбачоў — усе аднолькавыя.

— Вечна вас які-небудзь лысы чорт куды-небудзь пасылае. Вечна вы кудынебудзь ходзіце, каб толькі не быць на сваім рабочым месцы. Хуценька ў аддзяленне! Ох і людзі! Усё выдумваюць, каб толькі не працаваць.

Нянечка Тоня была вымушана падпарадкавацца загаду непасрэднага начальніка.

VIII

Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч пад час размовы з чарговым наведвальнікам, калі той між іншым заўважыў, што "нашаму Крыніцы сёння, напэўна, будуць кранты", раптам прыпомніў, што гэты самы Крыніца знаходзіцца ў палаце для аказання працаўнікоў кіраўнічых устаноў і кабінетаў і, напэўна, ужо мацюкае яго, Улановіча, апошнімі словамі.

"Здымуць — яшчэ не значыць, што знялі, — так разважаў галоўны ўрач. — А калі не здымуць? Калі яго не здымуць, то ён абавязкова здыме мяне. Ураз здыме! Трэба..." З такімі думкамі ён пакінуў свайго наведвальніка і шпарка пакрочыў да хірурга Астапчыка. Гэта быў адзін з тых выпадкаў, калі гара ідзе да Магамета і пры тым абавязкова кажа: "Ты бач! Я не горды. Я сам прыйшоў да цябе. Зрабі і мне паслугу".

Я не Астап Бэндар, але пакажыце мне таго чалавека, хто ў такім выпадку адмаўляе свайму начальству, і я першы кіну ў яго камень, магу і цагліну.

У двух словах Улановіч растлумачыў Сяргею Астапчыку, што яму належыць зрабіць, і зноў паспяшаўся на прыём сваіх здаровых наведвальнікаў.

Сяргей Астапчык схапіў чыстую амбулаторную карту, на хаду сказаў медсястры, што яго неадкладна выклікаюць у палату да безнадзейна хворага чалавека, і — пайшоў.

Але перад тым, як паказацца на вочы вялікаму начальству, доктар вырашыў здзейсніць свае зямныя (хоць і грэшныя) справы: захацеў усё ж пазваніць Наташы і прызначыць ёй спатканне. Ён не знайшоў у сваіх кішэнях двухкапеечнай манеткі, таму па дапамогу звярнуўся да хворых, якія таўкліся ў калідоры.

Магчыма ад таго, што хворыя ішлі да лякарні, а не ў краму ці, можа, проста былі скнары, але ў адказ яны пацiскалі плячыма і адмоўна трэслі галавою.

Нечакана да Астапчыка падышоў мужчына і прапанаваў яму дзесяцікапеечную манету.

— Звані, сябра!

Такі зварот вельмі спадабаўся Сяргею — просты, шчыры, ад самага сэрца, — але калі ён глянуў у твар сардэчнаму чалавеку, то яму адразу расхацелася браць манетку, бо перад ім стаяў муж Кацярыны Макейчык. Ён, як і муж Наташы Галавач, сёння праходзіў медагляд, а таму зараз без усялякай патрэбы бадзяўся па бальнічных калідорах: "Бяры, тэлефануй! Нашай медыцыне нічога не шкада".

Побач з Макейчыкам стаяў муж Наташы Галавач — усё тыя ж блакітныя вочкі — і таксама шчыра ўсміхаўся.

Такую шчырасць страшна было прымаць.

— Бяры! Не ламайся!

— Бяры! Мы ж свае людзі!

Сяргей узяў манетку, у знак падзякі кіўнуў галавою і пайшоў.

— Ал-лё! - мілы галасок чамусьці крыху змяніўся, але ўсё ж прыемна ўскалыхнуў душу.

— Добры дзень вам яшчэ раз.

— Добры-ы ... Сярожа?.. Гэта вы?..

— Я! Я хацеў бы пабачыцца з вамі. Можна-а?

— Са мной? Вядома, можна! Зараз іду...

— Крыху пазней. Апалове сёмай ля стадыёна. Згодны?

— Згодна! Згодна!

— Да пабачэння.

— Да пабачэння.

Астапчык на хвіліну адчуў сябе злодзеем. Шчаслівым злодзеем, бо тое, што ён хацеў украсці, даўным-даўно ўжо само прасілася, аж пішчала, яму ў рукі.

Радасць! Як мала для гэтага трэба: адзін позірк, адно слова і — чалавек забывае пра ўсё на свеце.

Радасць! Сэрца пульсуе, сэрца рвецца з грудзей.

Радасць радасцю, але тым не менш у палату пад нумарам 25 хірург Астапчык заходзіў са страхам. Страх быў чыста прафесійны, бо доктар не ведаў, як можна лячыць зусім здаровага чалавека. За сваю кароткую медыцынскую практыку яму яшчэ ні разу не даводзілася займацца такою справаю.

IX

Антон Пятровіч Крыніца быў ужо канчаткова ўпэўнены, што да яго ніхто не прыдзе, а значыць, і хвароба яго невылечная. Абыякавасць дактароў да яго асобы ўразіла Крыніцу, і ён упаў у глыбокую дэпрэсію: пачаў гаварыць сам з сабою. Ён гаварыў заклікамі, лозунгамі, цэлымі цытатамі і абзацамі з сваіх колішніх дакладаў і прамоў. Гаварыў ён натхнёна і ўвесь час шчыпаў пальцамі кумпяк дзіка ў сумцы пад ложкам. Кумпяк быў перасолены, і таму Антону Пятровічу хацелася піць. Піва было даўно выпіта, а пайсці па ваду не дазваляў начальніцкі гонар.

Неяк ён пачаў гаварыць доўгі ўрывак з прамовы, у якой ішла гаворка пра дасягненні раёна ў галіне сельскай гаспадаркі, а ў час гаворкі пальцы ўшчарэпіліся за добры кавалак мяса і са словамі: "Слава працаўнікам палёў і фермаў",-- Крыніца рашуча адарваў гэты кавалак ад кумпяка і пачаў засоўваць яго ў рот. Кавалак быў вялікі і таму цалкам у рот не памяшчаўся. Прамова на паўслове абарвалася. У гэты момант дзверы палаты адчыніліся, і на парозе з'явіўся малады чалавек у белым халаце. Ад здзіўлення Крыніца перастаў жаваць. Яму захацелася загадаць доктару, каб ён пачакаў крыху на калідоры, але рот быў забіты мясам і замест слоў пачулася мармытанне. Доктар нічога не зразумеў, нікуды не пайшоў і нават не адвярнуўся. Тады Крыніца стаў хутчэй пераціраць сваімі пашчэмкамі мяса, а затым зноў зрабіў нешта накшталт усходняй гімнастыкі і падаў Астапчыку руку.

— З-здла-в-вств-ву-це, док-тал.

Астапчык збянтэжана працягнуў руку, за якую ўхапіўся першы сакратар сваімі ручышчамі і што было сілы (а сілы ў Крыніцы было, каб адужаць двух Астапчыкаў ) пачаў яе трэсці. Крыніца, як і галоўнаму ўрачу, запэцкаў Сяргею руку ў тлушч, і той пасля шчырага прывітання пачаў выціраць яе аб свой чысты белы халат.

— Ну, прынёс? — як заўжды, грозна спытаў Крыніца.

— Што прынёс? — у сваю чаргу спалохана спытаў Астапчык.

Крыніцы здалося, што малады чалавек хоча проста пажартаваць.

— Дыягназ.

— Які? — ад здзіўлення вочы ў Астапчыка палезлі на лоб, бо ў размове з ім галоўны урач прасіў проста паглядзець "аднаго дурня, які прыкідваецца хворым": пра нейкі там дыягназ — ні слова.

Пасля гэтых слоў Крыніца адразу ж памяняў сваю думку, бо ў гэты раз яму падалося, што доктар не жартуе з ім, а здзекуецца.

— Дыягназ хваробы.

— Вашай? — далей усё атрымалася не так, як жадаў Астапчык, — дык Вы ж здаровы! — і хацеў дадаць яшчэ "як бык", але ў апошні момант устрымаўся. Занадта вялікай была рызыка так сябе паводзіць.

— Вы сядайце! Сядайце, калі ласка! — Крыніца раптам загаварыў мякка, лагодна. Загаварыў так, што з ім нельга было не пагадзіцца, яму нельга было не верыць.

Доктар, спалоханы і збянтэжаны такім паваротам размовы, сеў нясмела на край крэсла.

— Я зараз вам растлумачу сітуацыю. Вы ведаеце, доктар, прыходзіць момант, і ў мяне пачынае балець вось тут, — і Крыніца паказаў сіняк на спіне. Урэшце, страшна баліць галава, асабліва раніцай. Смага душыць, таксама раніцай. Да абеду я таксама ўзбуджаны. Калі не вып'ю ...

— Вы ведаеце, — нясмела перабіў яго Астапчык. — Я просты хірург, а хвароба, прыкметы якой вы назвалі, на маю думку, патрабуе іншага спецыяліста. Вы звярніцеся не па адрасу.

Дылетанства доктара казала першаму сакратару, што ён зойме яго бок толькі ў адным выпадку. Зойме і будзе з ім да апошняга. І тады — пляваў Крыніца на ўсе камісіі. "Цьфу!" — вось так на іх усіх.

— Мне сказаў галоўны урач, што вы не маеце ўласнай кватэры.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Антон Вядзьмак-Свіслагорскі*

# СКАЗ ПРА ЮЗІКАЎ

***У канцы леташняга года ў г. п. Свіслач намаганнямі мясцовай вертыкалі быў пастаўлены помнік Сталіну. За подпісам Антона Вядзьмака-Свіслагорскага ў рэдакцыю паступіла паэма "Сказ пра Юзікаў".***

Пасёлак Свіслач, як пасёлак,
За вёсак сем якіх не большы,
Стаіць, дратамі ў восем столак,
Адгарадзіўшыся ад Польшчы.

Тут ёсць касцёл,
царква і крамы,
Хоць не багатыя, ды ўсе,
Ёсць і будынак выканкаму
З чырвоным сцягам на страсе.

Ёсць пастарунак міліцэйскі,
Бальніца ёсць, ваенкамат.
Ёсць рынак,
кажуць, што зладзейскі,
Дзіця там купіць "аўтамат".

Былі ж калісьці тут палацы,
Старой гімназіі муры,
Ды час прыйшоў, і "людзі працы"
Іх разабралі на хлявы.

Калісьці славілася Свіслач
Багатым, шумным кірмашом,
Ды цішыня над ёй павісла,
Як стала "родам з Маташоў".

Ляжыць далёка ад сталіцы,
У прыгранічнай паласе.
Свае хоць мае таямніцы,
Ды раскрывае пакрысе.

Тут выканкам свой клопат мае,
І развіцця сакрэтны план.
Галоўных ідалаў мяняе,
Як коней некалі цыган.

Народ цікавяць апараты,
Як і дзяржаўны аппарат.
Каму з чаго цячэ багата,
Дык той таму
маліцца рад.

Адзін са скуры аж вылазіць,
Каб кіраўніцтву дагадзіць,
Другі катом па стрэхах лазіць,
Каб толькі кветкі не садзіць.

Так і было мінулым годам.
Як снег сышоў, і па вясне
Пачаў Кузьма* з усім народам
Ускопваць клумбы пакрысе.

Яго ж намеснік і дарадца,
Брыш** паважаны, Віктар наш,
Каб увільнуць ад нуднай працы,
Даў дзёру ў Вердамічы аж.
Каб на страсе, як Ной у лодцы,
Ці Дыяген у сваёй бочцы,
Перачакаць ажыятаж.
Калі ж адхлынула навала
З пасадкай кветак тых і дрэў,
Каб кіраўніцтва не злавала,
Пераканаць усіх сумеў,
Што ён ад працы не лайдачыў,
Добрасумленна спіну гнуў,
Рашаў складаную задачу –
У Свіслач Сталіна цягнуў.
-Павер мне, сябра, Якубоўскі***, -
Казаў натхнёна Віктар Брыш,-
Пёр твайго цёзку з самай вёскі,
Дзе спіртзавод быў, нібы крыж.
Ох, - і наймеўся з ім турботы, -
Не надарваў амаль што пуп.
А вам з Кузьмой адно работы, -
Што пасадзіць яго на слуп.
Яго цягнуў на ўласным карку,
Нібы лягавы алкаша.
Няхай падзівяцца "падарку"
Кузьме ад Віктара Брыша.
Мы так увесь раён праславім,
Маёй знаходкай-адкрыццём,
Як толькі Сталіна паставім,
Адразу зменіцца жыццё...

І так ён Юзіка паставіў,
Што Юзік Юзіка паставіў,
У Свіслочы, ля бальніцы,
На высокай камяніцы,
Перад самым Новым годам,
Каб знаёміўся з народам.
Так, у гонар юбілею,
На геройскую алею,

Там, дзе Ленін, як вядома,
Цягне руку да раддома,
Хоць па ёй не раз і білі,
Паўстаў Юзік Джугашвілі.
Хоць ён рук і ног не мае,
Але добра выглядае.
Надаюць яму красы
Шавялюра ды вусы,
Нос, каўказскі, што ў сыча,
Бровы, нібы ў басмача,
Плечы моцныя крутыя,
Вочы, нібы ў хан-Батыя.
Са слупа глядзіцца так,
Нібы мыш дзяўбе шуляк.

Юзік Юзіка паставіў,
І адразу свята справіў...
Як падпіў Юз Якубоўскі,
Даў салют, салют такоўскі,
Што ўсё неба над Свіслоччу
Зіхацела тою ноччу...
Каб імпэт не даў асечку, -
Прыпісаў мандат мястэчку:
"Раз мой цёзка тут стаіць,-
Свіслач горадам лічыць!
Хоць не ходзяць аўтабусы,
Але ў Юзіка ёсць вусы,
Але ў Юзіка ёсць плечы,
І жыве ён не ў галечы.
Ёсць машына і аклад,
Юзіку – сам чорт не брат!
Так што, пэўна, нездарма
Любіць Юзікаў Кузьма.
Я і мой паплечнік Брыш,
Зробім Свіслач, што Парыж.
Тых, хто меў над ёю ўладу –
Ушануем без адкладу.
Манументамі праславім –
Першых – Юзікаў паставім!
Каб ніхто там не калякаў:
З пазамежжа, з "бэнээфа",
Бюст паставім ад палякаў,
Бюст Пілсудскага Юзэфа.
Ён таксама Юзік зваўся,
Наша ў ім відаць парода,
І любові дамагаўся
Ад свіслоцкага народа.
Будуць бюсты, маўзалеі,
На геройскай той алеі.
Пасля Юзікаў там варта
Бюст паставіць Банапарта,
І Адольфу, і царам –
Гэтых месц уладарам,
Лукашэнку і Кузьме,
Ну, вядома жа, і мне.
Потым, я вам не брашу,
Нешта злепім і Брышу.
Барэлю**** на яго вежы
Намалюем партрэт свежы,
Бо зброрг ён камунгас
Ад крамольных ператрас.
А Тарноўскага*****, тым болей,
На яго мастацтва школе
Намалююць шкаляры,
За "зайцы", ці даляры.
Бюст жа ў Поразаве будзе,
Там яго шануюць людзі,
Колькі год таму, як нат,
Атрымаў ад іх мандат.
Дэпутат над дэпутам –
Во якім з іх стаў мандатам!

Будзе свет з нас век дзівіцца,
Свіслач – Юзікаў сталіцай
Будзе кожны называць,
Апяваць ды праслаўляць.
Так што хутка, часам оным,
Свіслач стане Пантэонам
Для герояў і зладзеяў,
Для святош і ліхадзеяў.

Антон Вядзьмак-Свіслагорскі
СКАЗ пра ЮЗІКАЎ
2001 г. Свіслач

Салжэніцыну напішам,
Каб прыехаў з сябрам Мішам,
Прыхапіў з сабой Барыса,
Ды Андрэеву, з актрысаў.
Трохі ў пушчы пасядзім,
Ды, як трэба, пагудзім,
Глядзіш, - новую дзяржаву,
Паміж гэтай добрай справы,
Саздадзім.
Каб ад мора ды да мора,
Як была, здаецца ўчора,
Як быў Юзік пры пагонах,
Пры тушонцы, макаронах.
Хоць меў трохі і замала,
Але ўсім лапшы хапала,
Хоць бяры, на вушы вешай,
Не цяперашні, а лепшай.

Вось і людзі з Ленінграда
Памагчы заўсёды рады,
Нам жадаючы дабра,
Аддаюць цара Пятра,
Што на бронзавым кані,
Каб паставілі ў тры дні,
Каб не клікаў на іх бедаў,
Каб адсюль палохаў шведаў,
Як тых немцаў, ці палякаў
Босы наш, з мячом, ваяка,
Што за Свіслаччу стаіць,
Ды на Рыбалы глядзіць.
Агглядае пільным вокам,
Што там робіцца, пад бокам,
За мяжою, на мяжы,
Каб не тыя крацяжы,
Быў бы ён пры аўтаматах,
Ці і ў ботах зухаватых,
Ну, а так, згубіўшы зброю,
Хай палохае сабою.
Бо ўжо як з такім салдатам,
Заўтра будзем біцца з НАТам.
Не чакай з таго дабра...
Трэба, трэба нам Пятра.

Старажытная Гародня
Аддае нам, хоць сягоння
Легендарнага Чапая,
Справа й гэта не чакае,
Бо герой быў знакаміты,
Белякамі не раз біты,
Атаманіў пад Уралам,
Даў аддуль такога дралу,
Што ў Самару, як нырнуў,
Дык да Нёмана дапнуў.
Мы па ім, хоць ненарокам,
Але справілі хаўтуры,
А ён, бач, – стаіць пад бокам

Абласной пракуратуры.
Забяром кавалерыста,
Што сягоння без каня,
І паставім урачыста,
Без усякага звання.

Вось і з Віцебска прыдзецца
Нам Суворава забраць.
Там жа Плешчанку няймецца,
Век з ім будзе ваяваць.
Зноў цягаць па падваротнях,
Як якога алкаша.
Ён герой жа, не гаротнік,
Не турэцкі нам паша.
Мала, што душыў заўзята
Хрысціянскі наш народ,
Але ж біў і супастата:
Франка, турка, напярод.
У такім памёр жа чыне,
Як і Юзік Джугашвілі,
Трэба нам па той прычыне,
Каб іх помнікі злучылі
Там, дзе Ленін, як вядома,
Баб свіслоцкіх да раддома
Агітуе днём і ўночы,
Каб паболела рабочых.
Хоць быў, кажуць, сіфілітык,
Ды выдатны ўсё ж палітык,
Клёпку меў у галаве –
Справа ж Юзікаў жыве!

Так што, верце, свіслачане,
Верце, час такі настане,
Вас яны, без папулізму,
Давядуць да камунізму.
А Фаміч, як дапаможа,
Будзем жыць, як святы бомжа:
З лукашызмам, сталінізмам,
Ці якім яшчэ ...уізмам.
Будзем кветачкі садзіць,
Жабракоў далей пладзіць,
Паліваць бярозы, клёны,
Хлеб купляць за міліёны,
На суботнікі хадзіць,
Свет, як жыць, увесь вучыць.

---

* *Кузьма Анатоль Фаміч - старшыня Свіслацкага райвыканкаму.*
** *Брыш Віктар - намеснік старшыні райвыканкаму.*
*** *Якубоўскі Юзік - намеснік старшыні райвыканкаму па ідэялогіі.*
**** *Барэль - старшыня камунгасу.*
***** *Тарноўскі - старшыня райсавету.*



**Юзік Якубоўскі перад помнікам Юзіку Джугашвілі**

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 11. 06. 2001 г.
Наклад 4600 асобнікаў. Замова № 1443.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 274 руб., 3 мес.- 822 руб.
*Кошт у розніцу:* 70 руб.